● выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

● цана 1000 рублёў

9 лістапада 1996 г.
субота, № 264 (23067)



# ЗВЯЗДА

## РОЗГАЛАС

### Дзецям-сіротам — праезд бясплатны

**Беларуская чыгунка з 1 лістапада ўвяла новае правіла праезду на прыгарадных паяздах для дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў.**

Цяпер яны будуць ездзіць бясплатна! Дакументам для афармлення бясплатнага праезду ў гэтым выпадку будзе служыць так званы адзіны білет, завераны пячаткай і подпісам кіраўніка навучальнай установы, якая выдала яго. Гэта новаўвядзенне беларускія чыгуначнікі зрабілі ў адпаведнасці з распараджэннем Прэзідэнта рэспублікі Аляксандра Лукашэнкі ад 7 кастрычніка 1996 года «Аб мерах па паляпшэнню жыццядзейнасці дзіцячых інтэрнацкіх і спецыяльных устаноў».

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

### Галавацяпства і злачынства ходзяць побач

**Толькі на адну ноч вырашылі пакінуць у касавым сейфе калгаса «Зара» Шклоўскага раёна нявыплачаную зарплату.**

Пры гэтым старшыня, галоўны бухгалтар і касірка не ўзялі пад увагу, што ўдзень быў міжгародні званок і ананімны абанент цікавіўся, ці паступілі грошы з банка. Не задумваючыся, адказалі станоўча. Па-другое, валявым рашэннем назначылі вартаўнікамі маладога ветурача, які працуе ў гаспадарцы без года тыдзень, і механізатара, які ўжо меў канфлікт з Законам. Як і трэба было чакаць, гора-ахоўнікі а першай гадзіне ночы адлучыліся з паста амаль на гадзіну. Паспелі не толькі паласавацца гарачай бульбай, але і чарку-другую прапусціць.

А вярнуўшыся да канторы калгаса адзін з іх атрымаў удар абрэзкам трубы. Затым невядомыя зніклі ў цемры ночы.

Хутка стала вядома, што з сейфа разам з імі зніклі і сумленна зробленыя калгаснікамі каля 50 млн. рублёў. Прыбыўшая аператыўна-следчая брыгада УУС Магілёўскага аблвыканкома і Шклоўскага РАУС устанавіла, што ахоўная сігналізацыя не рамантавалася і, вядома ж, не выкарыстоўвалася ажно з 1987 года.

Праз некалькі дзён аператыўнікам сталі вядомы механізм злачынства і асобы, якія яго ўчынілі.

У жніўні сёлетняга года, калі касірка была ў водпуску, ключы ад касавага пакоя былі часова перададзены іншай асобе, сваяк якой, раней тройчы судзімы за крадзяжы і ўгон, зрабіў злепкі. Заставалася толькі выбраць зручны момант. Скааперавўшыся з двума памочнікамі, якія «сядзяць на іголцы» і ім патрэбны грошы для набыцця наркотыкаў, і арганізаваўшы званок з абласнога цэнтра, злачынная група выйшла ўначы на «справу».

Цяпер усе члены злачыннай групы арыштаваны. Высвятляюцца ўсе абставіны гэтай крымінальнай гісторыі.

**А. ЕКАЦЯРЫНЧАЎ, прэс-група УУС.**

## АДНЫМ СКАЗАМ

Да 1996 года ў рэспубліцы 424 тысячы чалавек атрымлівалі **пенсіі па інваліднасці**.

Паказчык забяспечанасці **мясцовымі рэсурсамі нафты** ў Беларусі складае прыкладна 10 працэнтаў ад неабходнага.

За апошнія чатыры гады ўрадам і пад яго гарантыі ў рэспубліку прыцягнута **1193,4 мільёна долараў замежных крэдытаў:** з іх пагашана 223,5 мільёна і ўплачана ў выглядзе працэнтаў па крэдытах 150,6 мільёна долараў.

Магутнасці аднаго з буйнейшых нафтаперапрацоўчых прадпрыемстваў Еўропы — **«Нафтана»** разлічаны на перапрацоўку 25 мільёнаў тон нафты ў год.

Літоўскі ўрад разглядае магчымасць павелічэння ў IV квартале бягучага года і I квартале наступнага **экспарту ў нашу рэспубліку электраэнергіі** да 500 мільёнаў кВт/г у месяц.

Міністэрства фінансаў Расіі ў выніку праведзенай праверкі выявіла **нямэтавае выкарыстанне двух з паловай трыльёнаў рублёў** бюджэтных сродкаў шэрагам міністэрстваў і ўстаноў.



## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 459

## АБ ЗАБЕСПЯЧЭННІ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА ПРАВА ГРАМАДЗЯН НА ЎДЗЕЛ У РЭФЕРЭНДУМЕ

У адпаведнасці з артыкулам 3 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь адзінай крыніцай дзяржаўнай улады ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляецца народ. Народ ажыццяўляе сваю ўладу непасрэдна і праз прадстаўнічыя органы ў форме і межах, вызначаных Канстытуцыяй.

На падставе артыкулаў 37 і 73 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь непасрэдны ўдзел грамадзян у кіраванні справамі грамадства і дзяржавы забяспечваецца правядзеннем рэферэндумаў для вырашэння важнейшых пытанняў дзяржаўнага і грамадскага жыцця.

У парушэнне ўказаных палажэнняў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь заключэннем ад 4 лістапада 1996 г. і Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастановай ад 6 лістапада 1996 г. фактычна пазбавілі грамадзян права на прыняцце змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь шляхам абавязковага рэспубліканскага рэферэндуму.

Кіруючыся артыкуламі 7, 21 і 146 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь у мэтах абароны канстытуцыйнага права грамадзян на ўдзел у рэферэндуме (народным галасаванні), забеспячэння палітычнай і эканамічнай стабільнасці ў перыяд правядзення рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь 24 лістапада 1996 г. і ў адпаведнасці з пунктам 1 часткі першай артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь **пастанаўляю:**

1. На падставе артыкула 146 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь прызнаць, што Заключэнне Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь ад 4 лістапада 1996 г. «Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь пунктаў 2.2, 2.5. і 3 Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 6 верасня 1996 года «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню» не дзейнічае таму, што яно істотна разыходзіцца з Канстытуцыяй і абмяжоўвае канстытуцыйнае правы грамадзян на ўдзел у рэферэндуме (народным галасаванні).

2. У сувязі з тым, што Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь не вызначыў абавязковасць рашэнняў рэспубліканскага рэферэндуму 24 лістапада 1996 г. па пытаннях, прапанаваных Прэзідэнтам, устанавіць, што:

пытанні аб пераносе Дня незалежнасці Рэспублікі Беларусь і прыняцці Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года са змяненнямі і дапаўненнямі (пункты 2.1 і 2.2 Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню») выносяцца на абавязковы рэферэндум, рашэнні якога з'яўляюцца канчатковымі і маюць абавязковую сілу на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь;

пытанні аб куплі і продажы зямлі і аб адмене смяротнай кары (пункты 2.3 і 2.4 указанай пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь) выносяцца на кансультатыўны рэферэндум, рашэнні якога маюць рэкамендацыйны характар.

3. Рашэнне рэспубліканскага рэферэндуму аб змяненні і дапаўненні Канстытуцыі ўступае ў сілу ў парадку, прадугледжаным Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 5 лістапада 1996 г. № 455 «Аб парадку ўступлення ў сілу рашэнняў рэспубліканскіх рэферэндумаў аб змяненні і дапаўненні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь».

4. Ускласці персанальную адказнасць за падрыхтоўку і правядзенне рэспубліканскага рэферэндуму ў адпаведнасці з патрабаваннямі гэтага Указа на старшыню Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў В. І. Ганчара.

5. Устанавіць, што дзейнасць дзяржаўных органаў, якая не адпавядае Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, Закону Рэспублікі Беларусь «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Беларускай ССР» і патрабаванням гэтага Указа, а таксама перашкаджае правядзенню ў Рэспубліцы Беларусь рэспубліканскага рэферэндуму 24 лістапада 1996 г., падлягае спыненню, а вінаватыя ў гэтым асобы прыцягваюцца да адказнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам;

6. Кіраўніцтву справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, мясцовым выканаўчым і распарадчым органам забяспечыць дастаўку ўчастковым камісіям па рэферэндуму бюлетэняў для галасавання.

7. Кантроль за выкананнем гэтага Указа ўскласці на Адміністрацыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

8. Гэты Указ уступае ў сілу з моманту падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь
А. ЛУКАШЭНКА.**

7 лістапада 1996 г., г. Мінск.

## БЮЛЕТЭНЬ

### для галасавання на рэспубліканскім рэферэндуме ў Рэспубліцы Беларусь 24 лістапада 1996 года

Пры галасаванні адно са слоў «За» ці «Супраць» па кожным пытанні, якое вынесена на рэферэндум, выкрэсліваецца

**ПЫТАННІ, ЯКІЯ ІНІЦЫІРАВАНЫ ПРЭЗІДЭНТАМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

**1.** Перанесці Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень рэспублікі) на 3 ліпеня — дзень вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў у Вялікай Айчыннай вайне.

**За** ці **Супраць**

**2.** Прыняць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года са змяненнямі і дапаўненнямі (новая рэдакцыя Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь), прапанаванымі Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкам.

**За** ці **Супраць**

**3.** Ці выступаеце Вы за свабодную, без абмежаванняў, куплю і продаж зямлі?

**За** ці **Супраць**

**4.** Ці падтрымліваеце Вы адмену пакарання смерцю ў Рэспубліцы Беларусь?

**За** ці **Супраць**

**ПЫТАННІ, ЯКІЯ ІНІЦЫІРАВАНЫ ДЭПУТАТАМІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

**5.** Прыняць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года са змяненнямі і дапаўненнямі, прапанаванымі дэпутатамі фракцыі камуністаў і аграрыяў.

**За** ці **Супраць**

**6.** Ці выступаеце Вы за тое, каб кіраўнікі мясцовых органаў выканаўчай улады выбіраліся непасрэдна жыхарамі адпаведнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі?

**За** ці **Супраць**

**7.** Ці згодны Вы, што фінансаванне ўсіх галін улады павінны ажыццяўляцца галосна і толькі з дзяржаўнага бюджэту?

**За** ці **Супраць**

* * *

Калі пра галасаванні па кожным пытанні, якое вынесена на рэферэндум, не выкраслена ні адно з двух слоў — «За» ці «Супраць» — ці выкраслены абодва гэтыя словы, бюлетэнь у частцы гэтага пытання прызнаецца несапраўдным.

Калі пры галасаванні па другім пытанні, якое вынесена на рэферэндум Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, і па пятым пытанні, якое вынесена на рэферэндум дэпутатамі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, адначасова ў бюлетэні выкраслена слова «Супраць», бюлетэнь у частцы гэтых двух пытанняў прызнаецца несапраўдным.

Заключэннем Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь ад 4 лістапада 1996 года № 3-43/96 прызнаны не адпаведным Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь пункт 3 Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 6 верасня 1996 года «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню» ў частцы вынясення праектаў змяненняў і дапаўненняў Канстытуцыі на абавязковы рэферэндум.

## ПРЭЗІДЭНТ МАЕ НАМЕР ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ ВОЛЕВЫЯЎЛЕННЕ НАРОДА

**Як паведаміла прэс-служба кіраўніка дзяржавы, 6 лістапада Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнка правёў планавую рэспубліканскую нараду з кіраўнікамі мясцовых органаў улады па пытаннях удасканалення сістэмы дзяржаўнага кіравання, дысцыпліны і навядзення парадку.**

У яе рабоце прынялі ўдзел прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь М.М.Чыгір, кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта М.У.Мясніковіч, дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь В.У.Шэйман, віцэ-прэм'еры, кіраўнікі шэрага міністэрстваў і ведамстваў, старшыні абласных, гарадскіх і раённых выканаўчых камітэтаў.

Прэзідэнт даў канкрэтныя даручэнні шэрагу міністэрстваў і ведамстваў па ўзмацненню кантролю за своечасовай выплатай заработнай платы, пенсій, дапамог і стыпендый, эканоміі паліўна-энергетычных рэсурсаў, недапушчэнню росту цэн, арганізацыі бесперабойнага забеспячэння насельніцтва харчовымі і прамысловымі таварамі.

На нарадзе былі разгледжаны праблемы павышэння эфектыўнасці дзейнасці органаў выканаўчай улады па вырашэнню сацыяльна-эканамічных пытанняў. У гэтым кантэксце былі прааналізаваны вынікі работы органаў дзяржаўнага кіравання розных узроўняў. Асаблівая ўвага ўдзелена выкараненню праяўленняў бюракратызму, валакіты і безадказнасці.

Важнае месца ў дакладзе і выступленнях занялі праблемы канстытуцыйнай рэформы і правядзення маючага адбыцца рэферэндуму. Было адзначана, што Прэзідэнт дабіваўся кампрамісу з Вярхоўным Саветам, рабіў усё для таго, каб не ўцягваць грамадства ў канфрантацыю і процістаянне, захаваць мір і згоду ў краіне.

Аднак Вярхоўны Савет, працягваючы лінію на канфрантацыю, прыняў рашэнне аб змяненні сваёй пастановы ад 6 верасня 1996 года «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню», чым пазбавіў народ канстытуцыйнага права на ажыццяўленне сваёй улады і тым самым абвастрыў сітуацыю ў краіне.

Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што ён зробіць усё для таго, каб забяспечыць свабоднае волевыяўленне народа, адзначаецца ў паведамленні прэс-службы. Рашэнне народа, які з'яўляецца галоўнай крыніцай улады, будзе мець абавязковы характар.

**БЕЛТА.**



ЧАКАННЕ. Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

**АФІЦЫЙНА**

## Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### АБ ЗВАРОЦЕ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ З НАГОДЫ СВЯТКАВАННЯ КАСТРЫЧНІЦКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Зацвердзіць тэкст звароту Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з нагоды святкавання Кастрычніцкай рэвалюцыі.

2. Апублікаваць гэты зварот у газетах «Звязда», «Народная газета».

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**

6 лістапада 1996 г., г. Мінск.
№ 766—XIII.

### Зварот Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з нагоды святкавання Кастрычніцкай рэвалюцыі

Дарагія суайчыннікі!

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь сардэчна віншуе грамадзян са святам — Днём Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Вялікая Кастрычніцкая Сацыялістычная рэвалюцыя стала адной з галоўных падзей XX стагоддзя. На шостай частцы зямной сушы была зроблена спроба ўстанаўлення сапраўднага народаўладдзя, пабудовы грамадства сацыяльнай справядлівасці. Падзея, якая адбылася 79 гадоў назад, аказала велізарны ўплыў на працэс дэмакратызацыі ў сусветным маштабе.

Сёння рэспубліка перажывае цяжкі час. Усе сістэмы дзяржавы, устоі грамадства, стратэгія выжывання ў новых гістарычных умовах фарміруюцца на фоне ўсёабдымнага эканамічнага, палітычнага і духоўнага крызісу. Працягваецца падзенне вытворчасці. Павялічваецца беспрацоўе. Падае ўзровень жыцця насельніцтва. Расце карупцыя і злачыннасць. Вельмі складана рэалізуюцца сацыяльныя гарантыі грамадзян, якія замацаваны за імі ў дзеючай Канстытуцыі.

Нягледзячы на ўсе цяжкасці пераходнага перыяду, Беларусь з аптымізмам глядзіць у будучыню. З надзеяй на лепшае дэпутаты Вярхоўнага Савета звяртаюцца сёння да суграмадзян. Нямала выпрабаванняў выпала беларускаму народу ў мінулым. Памяць аб здзяйсненнях і подзвігах нашых продкаў, нашых ветэранаў усяляе мужнасць і веру ў свае сілы цяперашняму пакаленню, моладзі краіны.

У сучасным грамадстве да гісторыі і спадчыны Вялікага Кастрычніка існуюць розныя адносіны. Але мудрасць народа заключаецца ў тым, каб запазычыць з мінулага ўсё каштоўнае і прагрэсіўнае, што можа дапамагчы Рэспубліцы Беларусь вырашыць вострыя супярэчнасці і пралажыць сабе шлях да стабільнасці, адраджэння і развіцця. На цяперашнім этапе для грамадства актуальнымі застаюцца лозунгі рэвалюцыі 1917 года «Мір — народам!», «Уладу — Саветам!».

Паважаныя суграмадзяне! Кожнаму з вас, вашым сем'ям, працоўным калектывам, дэмакратычнай грамадскасці рэспублікі, усяму народу Беларусі ў гэты святочны дзень мы горача жадаем упэўненасці ў будучыні, плённай працы, дабрабыту і здароўя.

**Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь**

## УСЕ ПЕНСІЯНЕРЫ І ІНВАЛІДЫ, ЯКІЯ МЕЛІ ВОСТРУЮ ПАТРЭБУ, АТРЫМАЛІ ДАПАМОГУ, ПРАДУГЛЕДЖАНУЮ РАСПАРАДЖЭННЕМ ПРЭЗІДЭНТА КРАІНЫ

У канцы жніўня сёлетняга года Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка аддаў распараджэнне «Аб аказанні адзінокім пенсіянерам і інвалідам, якія маюць вострую патрэбу, аднаразовай грашовай дапамогі для нарыхтоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі і паліва». На гэтыя мэты са спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь было выдзелена 36,5 мільярда рублёў. Аб выкананні гэтага распараджэння карэспандэнту БЕЛТА расказала міністр сацыяльнай абароны Вольга Даргель.

Паводле даных статыстыкі, у рэспубліцы налічваецца больш за 522 тысячы чалавек, якія атрымліваюць пенсію менш як 400 тысяч рублёў. З іх, як паведаміла міністр, у выніку абследавання было выяўлена 121.553 адзінокіх грамадзян, якія маюць патрэбу ў аказанні дапамогі.

29 кастрычніка ва ўсіх рэгіёнах рэспублікі завяршылася выплата аднаразовай грашовай дапамогі. Сродкі, выдзеленыя распараджэннем Прэзідэнта, атрымалі 119.509 грамадзян, якія мелі вострую патрэбу, з іх 57.188 адзінокіх.

**БЕЛТА.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**№ 457**

### Аб устанаўленні штомесячнай надбаўкі да грашовага ўтрымання асобным катэгорыям ваеннаслужачых, асоб начальніцкага саставу органаў унутраных спраў, якія маюць права на пенсію па выслузе гадоў

У мэтах стварэння ўмоў для замацавання высокакваліфікаваных кадраў, а таксама ўзмацнення сацыяльнай абароны асобных катэгорый ваеннаслужачых, асоб начальніцкага саставу органаў унутраных спраў, якія маюць права на пенсію па выслузе гадоў, **пастанаўляю:**

1. Устанавіць з 1 студзеня 1997 г. ваеннаслужачым афіцэрскага саставу Міністэрства абароны, Міністэрства ўнутраных спраў, Камітэта дзяржаўнай бяспекі, пагранічных і чыгуначных войскаў, Службы бяспекі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўнага цэнтра бяспекі інфармацыі пры Савеце бяспекі Рэспублікі Беларусь, асобам сярэдняга, старшага і вышэйшага начальніцкага саставу органаў унутраных спраў і Галоўнага ўпраўлення дзяржаўнай аховы пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, якія маюць права на пенсію па выслузе гадоў і працягваюць службу, з ліку высокакваліфікаваных спецыялістаў, якія дасягнулі значных вынікаў у службовай дзейнасці, штомесячную надбаўку да грашовага ўтрымання ў памеры да 50 працэнтаў сумы пенсіі, што магла быць ім налічана ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў».

Міністру абароны, міністру ўнутраных спраў, старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі, начальніку Галоўнага ўпраўлення пагранічных войскаў, начальніку ўпраўлення чыгуначных войскаў, начальніку Службы бяспекі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, начальніку Дзяржаўнага цэнтра бяспекі інфармацыі пры Савеце бяспекі Рэспублікі Беларусь, начальніку Галоўнага ўпраўлення дзяржаўнай аховы пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь у месячны тэрмін распрацаваць і зацвердзіць па ўзгадненню з дзяржаўным сакратаром Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь палажэнні аб парадку і ўмовах выплаты названай надбаўкі.

Расходы на гэтыя мэты ажыццяўляць у межах бюджэтных асігнаванняў, прадугледжаных на абарону, на ўтрыманне органаў унутраных спраў, унутраных войскаў, папраўча-працоўных устаноў, органаў дзяржаўнай бяспекі, Галоўнага ўпраўлення дзяржаўнай аховы пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, Службы бяспекі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

2. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

6 лістапада 1996 г., г.Мінск.

## ПАЛІТЫЧНЫЯ АМБІЦЫІ ПАВІННЫ АДСТУПІЦЬ ПЕРАД МУДРАСЦЮ І РАЗВАЖНАСЦЮ

**Міжнародны вопыт сведчыць аб тым, што любое парушэнне Канстытуцыі і законаў, а таксама балансу галін дзяржаўнай улады, як правіла, вядзе да паглыблення палітычнага крызісу, які тоіць у сабе цяжкія вынікі.**

Аб гэтым гаворыцца ў звароце, накіраваным дэлегацыяй парламентаў дзяржаў — удзельніц Міжпарламенцкай асамблеі СНД да Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі і Вярхоўнага Савета краіны. Дакумент быў прыняты на пасяджэнні МПА, якое адбылося 2 лістапада ў Санкт-Пецярбургу.

У звароце выказана занепакоенасць членаў дэлегацый парламентаў дзяржаў СНД напружанасцю паміж выканаўчай і заканадаўчай уладамі Беларусі. МПА заклікала кіраўніцтва краіны «прыняць усе магчымыя меры для пошуку рашэнняў, накіраваных на ўстараненне прычын, якія прывялі да процістаяння ўладных структур, кансалідаваць грамадства ў імя міру і працвітання дзяржавы, забеспячэння захавання правоў і свабод грамадзян рэспублікі».

«Перакананы, што мудрасць і разважнасць, жыццёвы вопыт возьмуць верх над палітычнымі амбіцыямі», — адзначаецца ў звароце.

У рабоце Міжпарламенцкай асамблеі СНД прымаў удзел Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Сямён Шарэцкі.

**БЕЛТА.**

## ГУЧАЛІ МАРШЫ, СОНЦА ЗЗЯЛА




Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.



Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

**Святкаванне чарговага юбілею Кастрычніцкай рэвалюцыі прайшло ў Мінску на прыкметна зніжанай гучнасці. Пачалося гэта зніжэнне з таго, што ўжо за некалькі дзён да чырвонага дня календара ўзнікла няўпэўненасць: дазволяць гарадскія ўлады ці не шэсце прыхільнікаў камуністычных ідэй.**

А скончылася тым, што калі ў дзень свята невялічкія групы з транспарантамі над галовамі ўсё ж такі ціха-мірна пайшлі да месца мітынгу, то на іх шляху — на галоўным праспекце Мінска — не было бачна ніводнага загадзя вывешанага дзяржаўнага сцяга. Згадзіцеся, калі ўлічваць, што 7 лістапада адзначана ў нашым афіцыйным календары як святочны дзень — зніжэнне гучнасці відавочнае.

Што датычыць выступленняў прамоўцаў на мітынгу ў парку імя Горкага, то з дынамікаў, як і раней, чуліся заклікі, абвінавачанні, а адзін з лідэраў нават закончыў прамову баявым «Рэвалюцыя працягваецца!» Само ж свята працягвалася ў адпаведнасці з настроем народных мас: у парку гулялі бабулькі з унукамі, на Свіслачы плаваў караблік з адпачываючымі, а прахожыя, нягледзячы на гром дынамікаў, любаваліся апошнімі сонечнымі днямі адыходзячай восені.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

**СПОРТ**

*СКАНДАЛ*

## ДА ЧАГО ПРЫВЯДЗЕ СПАРТЫЎНАЯ ПАЛІТЫКА?

**«...У сувязі з няпэўнай палітычнай сітуацыяй у Беларусі і не да канца прадказальнымі яе наступствамі для правядзення матчаў еўрапейскіх кубкаў гандбольны клуб СКА (Мінск) адмаўляецца ад правоў гаспадара ў гульнях Лігі чэмпіёнаў і хацеў бы ўсе тры дамашнія сустрэчы правесці ў Германіі...»**

Ліст такога зместу быў адпраўлены кіраўніцтвам мінскага клуба ў Міжнародную федэрацыю гандбола (ЕГФ). «Дабро» было атрымана, тэрміны і месца правядзення гульняў на чужыне з нямецкім «Кілем», швейцарскім «Пфафі Вінтэртурам» і югаслаўскай камандай «Црвена Звезда» таксама ўзгоднены. Магчыма, усё так бы і засталося, як было, калі б армейцы «ківалі» толькі на эканамічны бок пытання (ужо не аднойчы беларускія клубы, каб зэканоміць, праводзілі дамашнія матчы за мяжой), аднак жа тут з'явілася і нейкая палітычная падаплёка. Тым больш, што адна з гульняў павінна была адбыцца ў Мінску 24 лістапада, акурат у дзень усенароднага рэферэндуму. Натуральна, пайшла зваротная рэакцыя з боку спартыўных уладаў. Міністр спорту і турызму Уладзімір Рыжанкоў заявіў, што ўсё гэта лухта (наконт палітычнай нестабільнасці) і СКА ці будзе гуляць у Мінску, ці не будзе гуляць увогуле. У штаб-кватэру ЕГФ пайшла дэпеша аб гэтым, аднак адтуль наўрад ці прыйдзе станоўчы адказ аб пераносе месца гульняў, бо першая павінна ўжо адбыцца ў Германіі ў гэту нядзелю. Каб не быць галаслоўным, карэспандэнт «Звязды» ўзяў **экспрэс-інтэрв'ю ў галоўнага трэнера армейскага клуба Спартака МІРАНОВІЧА**.

— *Спартак Пятровіч, на гэты час што-небудзь вядома, дзе будзе гуляць ваш клуб і ці будзе ён гуляць увогуле?*

— Думаю, што ўсё стане на свае месцы заўтра, калі прыйдзе адказ з Міжнароднай федэрацыі гандбола.

— *Тое, што ў клуба эканамічныя цяжкасці — вядома. Аднак пры чым тут «няпэўная палітычная сітуацыя ў Беларусі і не да канца прадказальныя яе наступствы»?*

— Па-першае, мы не маглі адкрытым тэкстам сказаць, што каманда па сутнасці амаль не мае грошай. Нам бы проста сказалі: «Дык навошта вы, банкроты, лезеце ў еўрапейскую лігу, калі не можаце на годным узроўні прыняць у сябе дома гасцей?» і паказалі б на дзверы. Па-другое, на папярэднім этапе мы сустракаліся ў Мінску з аўстрыйскім «Лінцам» падчас праходжання ў сталіцы ўсенароднага сходу. Гасцініцы былі «забіты» дэлегатамі, і аўстрыйцаў прыйшлося пасяліць у адным з інтэрнатаў, аб чым тыя не замарудзілі паведаміць у ЕГФ.

— *А да гэтага вы звярталіся са сваімі праблемамі?*

— Мы не звяртаемся, а крычым аб гэтым кожны дзень. І асабіста я стараюся рабіць усё на карысць развіцця беларускага гандбола.

**P.S. Як стала вядома, усе тры гульні мінчане згуляюць у Германіі.**

**Алесь СІВЫ.**

*ФУТБОЛ. ЧЭМПІЯНАТ БЕЛАРУСІ*

## НАСТУПІЛА ЯСНАСЦЬ З ЧЭМПІЁНАМ

**Перадапошні, 29-ы тур VI чэмпіянату Беларусі па футболу ў першай лізе амаль паставіў усе кропкі над «і». Фактычна знята пытанне наконт чэмпіёнства, вызначыліся каманды, якія пакінуць дывізіён мацнейшых.**

Упершыню за ўсю шасцігадовую гісторыю ўнутранага беларускага першынства на вышэйшую прыступку п'едэстала могуць узысці футбалісты мазырскага МВКЦ. Гэта стала магчымым дзякуючы важнай перамозе мазыран над камандай «Маладзечна» на выездзе.

Лік 2:1 на карысць гасцей наблізіў палешукоў да запаветнай мэты. У апошнім, 30-м туры, ім дастаткова згуляць у Магілёве супраць мясцовага «Тарпеда» нават унічыю, каб застацца недасягальнымі для мінскіх дынамаўцаў. А яны пасля дзвюх запар нічыіх з аднолькавым лікам 1:1 (апошняя з іх — з Дняпром), відаць, пазбавілі сябе шанцаў стаць шасціразовымі чэмпіёнамі. Толькі цудам у руках падначаленых Івана Шчокіна можа аказацца выратавальная саломінка. Пры ўмове, што МВКЦ уступіць «Тарпеда», а мінчане выйграюць на выездзе ў лідскага «Абутніка». Тады для вызначэння чэмпіёна спатрэбіцца перагульванне.

Заключны, 30-ы тур пройдзе 10 лістапада.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

**У СВЕЦЕ**

### БІЛ КЛІНТАН ЗАСТАЕЦЦА ГАСПАДАРОМ У БЕЛЫМ ДОМЕ



**У Злучаных Штатах Амерыкі існуе неафіцыйная традыцыя — у электыўную ноч, калі праводзіцца падлік галасоў па выніках прэзідэнцкіх выбараў у краіне, запрашаюць родных і сяброў, каб разам назіраць за вынікамі галасавання. Гэтай традыцыі прытрымліваюцца ўсе пасольствы ЗША за мяжой. Не стала выключэннем і Пасольства Злучаных Штатаў Амерыкі ў Беларусі, якое правяло такое мерапрыемства 6 лістапада.**

За падлікам галасоў па каналу «Сі-эн-эн» назіралі прадстаўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі, Міністэрства замежных спраў рэспублікі, сродкаў масавай інфармацыі, грамадскасці сталіцы. Запрошаныя сталі сведкамі пераканаўчай перамогі на прэзідэнцкіх выбарах у ЗША цяперашняга гаспадара Белага дома Біла Клінтана. Ён атрымаў перамогу на прэзідэнцкіх выбарах, набраўшы большасць галасоў у 24 штатах. Такім чынам, прэзідэнт ЗША Біл Клінтан выбраны на другі чатырохгадовы тэрмін. Дарэчы, ён стаў першым прэзідэнтам-дэмакратам з часоў Франкліна Дэлано Рузвельта, які дабіваўся перавыбрання.

Каменціруючы па просьбе карэспандэнта БЕЛТА перавыбранне Біла Клінтана на другі тэрмін, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол ЗША ў Беларусі Кенет Яловіц выказаў задавальненне, што дэмакратыя ў яго краіне ў чарговы раз пацвердзіла сваю жыццяздольнасць. Калі ж праецыраваць вынікі выбараў на ўзаемаадносіны з Беларуссю, то, паводле слоў пасла, курс Злучаных Штатаў застанецца ранейшым. «Наша краіна хацела б, каб Беларусь заставалася суверэннай дзяржавай, з працвітаючай рыначнай эканомікай, з імкненнем умацоўваць свае ўзаемаадносіны з сусветным супольніцтвам», — падкрэсліў дыпламат.

Кенет Яловіц выказаў надзею, што адносіны паміж Беларуссю і ЗША будуць і ў далейшым будавацца на канструктыўнай дзелавой аснове. Ён таксама лічыць, што палітычныя праблемы, якія ёсць у нашай рэспубліцы, будуць вырашаны справядлівым мірным шляхам, а афіцыяльны і апазіцыйны бакі дасягнуць кампрамісу ў сваіх узаемаадносінах.

**Ігар РУБАН, БЕЛТА.**

**ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ**

### ЗАІР: ЖЫЦЦІ БОЛЬШ ЯК ПАЎТАРА МІЛЬЁНА ЎЦЕКАЧОЎ ЗНАХОДЗЯЦЦА ПАД ПАГРОЗАЙ

Паступаюць усё новыя паведамленні пра ўзброеныя сутыкненні ў раёне галоўнага лагера ўцекачоў ва Усходнім Заіры, дзе больш як мільёну ўцекачоў пагражаюць небяспечныя хваробы і голад. Паводле слоў відавочцаў, у раёне лагера пад горадам Гома чуюцца стрэлы. З таго часу, як быў эвакуіраваны персанал агенцтва па аказанню дапамогі, ужо некалькі сутак няма ніякіх даных пра лёс чатырохсот тысяч уцекачоў, якія знаходзіліся ў лагеры. У панядзелак паўстанцы, якія ўстанавілі кантроль над значнай часткай Усходняга Заіра, абвясцілі перамір'е. Францыя прапануе стварыць спецыяльныя ўзброеныя фарміраванні і накіраваць іх у рэгіён для аказання дапамогі ўцекачам. Аднак ЗША і некаторыя краіны Еўропы выказаліся супраць.

### «БОІНГ» ЗНІК БЯССЛЕДНА

У Нігерыі дагэтуль няма ніякіх звестак пра лёс авіялайнера, які ў чацвер вечарам знік з экранаў радараў. Мяркуецца, што ён разбіўся. На борце самалёта «Боінг-727» знаходзіўся 141 чалавек. Кіраўнікі авіякампаніі ADC гавораць, што пошукі вяліся ўсю ноч, аднак ніякіх слядоў самалёта знайсці не ўдалося.

### УРОН, ЯКІ НАНЁС ІНДЫІ ЦЫКЛОН, ВЫМЯРАЕЦЦА МІЛЬЁНАМІ ДОЛАРАЎ І СОТНЯМІ ЧАЛАВЕЧЫХ ЖЫЦЦЯЎ

Больш як 500 чалавек загінулі ў выніку разбуральнага цыклону, які пранёсся над прыбярэжнымі раёнамі Індыі. Ураганны вецер, скорасць якога дасягала 200 км/гадз. і гіганцкія хвалі знішчылі вялікую колькасць вёсак на ўзбярэжжы.

**Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі».**

## ГУЧНЫЯ ПЕСНІ КАМОЦКАГА - МАЛОДШАГА

**Алесь Камоцкі (другі) нарадзіўся месяц таму ў пятніцу трынаццатага ў трынаццаць гадзін, да 13 хвілін трохі недацярпеў. Але спалучэнне атрымалася і так даволі красамоўнае. Вядома ж, і імя з прозвішчам да многага абавязваюць. Бацька дзіцяці, аўтар і выканаўца ўласных песен Алесь Камоцкі (першы) лічыць, што сын будзе дастойна працягваць яго шлях: «Я ўсё жыву пачаткамі, а гэты можа што і даб'е».**

Але калі з бацькам дзіцяці ўсё зразумела, то маці — сапраўдная таямніца. Бо Алесь Камоцкі ў дадзены перыяд афіцыйна адзінокі мужчына. Сям'я ў яго ўжо аднойчы была. Але жыццё развяло ў розныя бакі дваіх таленавітых спевакоў — Алеся і Касю Камоцкіх.

Вось зараз такі іспыт для Алеся — з'яўленне дзіцяці. А як жа, бо трэба ж чалавеку мець сына. Адзін Алесь нават не спрабаваў гэта зрабіць — усё роўна не атрымалася б. Вось і дамовіўся з другім добрым чалавекам. Паглядзелі адзін на аднаго і вырашылі: хто ведае, як там будзе складвацца з жаніцьбаю, а дзіця ж можа атрымацца вельмі прыгожым. Другая палова паставілася да такой сітуацыі нармальна. Сапраўды, калі ўжо рабіць такую справу, то з разумным чалавекам.

Старэйшая дачка Алеся Камоцкага ад першага шлюбу таксама добра аднеслася да брата. У яе клопату прыбавілася — трэба ж нейкія падарункі брату рыхтаваць. Яна і зараз дапамагае, па магчымасці: напрыклад, калі хлопчыку давалі імя, вельмі актыўна ўдзельнічала ў працэсе.

Алесь Камоцкі жыве асобна ад сына, але наведваецца да яго па некалькі разоў на тыдзень. Актыўна да выхаваўчага працэсу бацька падключыцца, калі хлопчык стане на ногі ў літаральным сэнсе. Пры бацьку Камоцкі - малодшы паводзіць сябе спакойна, але кажуць, што ў іншы час дае жару.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

## ГЭТЫ «БУЛЬВАР» НАВАТ ДЛЯ ТЫХ, ХТО НЕ ЎМЕЕ ХАДЗІЦЬ

**«Бульвар смеху» адкрыў другі тэатральны сезон. Плаўны пераход тэатра ў новы год забяспечыла артыстка Наталля Клімчык: яшчэ ў першым сезоне на свет з'явіўся яе сын Данііл.**

А на ўрачыстым канцэрце адкрыцця другога тэатральнага сезона немаўля ўжо дэбютавала на сцэне: вельмі пільна, па-філасофску высакамерна паглядаў у залу — напэўна, імкнуўся разгледзець там сваіх будучых прыхільнікаў. Маці хутчэй за ўсё адчувала, што сын ужо ў «ружовым» узросце можа канкурыраваць з ёю, прафесіянальнай актрысаю.

Увогуле, на «Бульвары смеху» ў гэты вечар было многа сяброў тэатра. У прынцыпе, самыя лепшыя канцэрты заўсёды робяцца з дапамогай сяброў. Тым больш, што ў сябрах «Бульвара» ходзяць Рыгор Волчак, Вадзім Касенка, гурты «Палац», «Камелот» і «Ляпіс Трубецкой». Але гваздом праграмы, безумоўна, быў выхад Данііла. Спадзяёмся, не апошні...

# НАТАЛІ



**Скандал вакол распаду дуэта — «Дзі- Бронкс і Наталі» працягваецца. Наталі № 1 — Наталля Арцёмава (чый твар вы бачылі ў кліпе на канале ГРТ) з'яўленне новай спадарожніцы «Дзі-Бронкса» лічыць не чым іншым, як самазванствам. Асабліва Наталі Арцёмаву абурае тое, што сваю канцэртную дзейнасць разам з дуэтам Наталля Кудрына пачынала з выкарыстання ранейшых фанаграм ды яе сцэнічнага імя. Справа патыхае судом.**

# СУПРАЦЬ... НАТАЛЛІ

***Наталля АРЦЁМАВА:***

— Усю справу абставілі так, быццам бы я сама пакінула дуэт. На самай справе я нікуды не падзелася. Проста ў верасні я хварэла і не магла выступаць у канцэртах, Па сённяшні дзень у нас ёсць кантракт, ён афіцыйна не скасаваны. І выступаць ні з кім іншым без маёй згоды «Дзі-Бронкс» не мае права.

Кантракт з расійскай фірмай «Паліграм» разлічаны на тры гады і на запіс трох альбомаў. Першы альбом выйшаў і добра паўсюль прадаецца — і ў Беларусі, і ў Расіі. Зразумейце сітуацыю: кантракт існуе на паперы, там ёсць ён, там ёсць я. А на сцэне з'яўляецца зусім іншая асоба, якая афіцыйна да праекта не мае дачынення.

**— Дзіўна, але пачыналася ўсё добра і прыгожа — прынамсі так здавалася збоку. Мала каму з Беларусі ўдавалася так адразу ўпісацца ў сістэму расійскага шоу-бізнесу.**

— Вось чаму я не магу так лёгка плюнуць і забыць усе гэтыя непрыемнасці. Таму што працы было аддадзена два гады. Цэлы год мы запісваліся ў Мінску, нічога не атрымліваючы за гэта. На свае сродкі запісалі першыя песні. Тады мы ніколі не сварыліся з «Дзі-Бронксам» з-за грошай. Восенню мінулага года прэзідэнт фірмы «Сэкай» прапанаваў мне праспансіраваць менавіта мой «сольнік». Я тады сказала, што нам не хапае сродкаў, каб давесці да ладу сумесную справу. Падумаўшы, ён згадзіўся на фінансаванне праекта «Дзі-Бронкс і Наталі».

Потым мы падпісалі кантракт з фірмай «Паліграм раша». Гэта асобная гісторыя. На той момант не задумваліся, на якія ўмовы згаджаемся. Радасць, што трапілі на сур'ёзную працу ў Маскву, засціла вочы. Практычна ўсе правы, у тым ліку і аўтарскія, мы аддалі бясплатна гэтай кампаніі. Проста, што называецца, аддаліся ў рукі, яшчэ прадаставіўшы свае спонсарскія сродкі. Большая частка затрат пакрывалася з боку спонсара (альбом, кліп за 45 тысяч долараў, касцюмы, апаратура), а не ад кампаніі. Яны толькі забяспечылі выхад кампакт-дыска. Але што зараз махаць рукамі?..

**— Тым не менш, што зроблена — тое зроблена. Пайшоў альбом, круціцца кліп...**

— Так, але спонсары разлічвалі на доўгатэрміновыя адносіны з дуэтам у яго першапачаткавым выглядзе. Спонсара знайшла я, на кампаню «Паліграм» выйшла таксама я. Факт, што «Дзі-Бронкс» не мае ніякага права распараджацца праектам асабіста. Вядома, «заварыў кашу» не толькі «Дзі-Бронкс», але і наш шаноўны адміністратар Паша Пашкоўскі, які прыйшоў у дуэт на ўсё гатовае.

**— Магчыма, апынуўшыся па-за справамі, вы рызыкняце пачаць самастойны шлях на эстрадзе?**

— Зразумела, як спявачка я не прападу без «Дзі-Бронкса». Дзякуй Богу, маю добрую музычную адукацыю, маю голас. Калі шчыра казаць, «тэхна» — для мяне даволі вузкі стыль. А сама я магла б увогуле абысціся без рэпера. Тым больш, што ён прыдумваў толькі словы, музыку пісаў аранжыроўшчык, а свае партыі кожны пісаў сам.

Дзяніс Шпітальнікаў болей быў бы зацікаўлены ў нашай сумеснай працы, проста ён яшчэ неразумны хлопчык. Я параіла б яму падрасці перш, чым займацца сур'ёзнымі справамі. У нас з ім былі даволі афіцыяльныя адносіны, і ён зусім не адпавядаў маім уяўленням пра мужчыну, джэнтльмена. Мужчына павінен дабівацца ўсяго сам, а не з дапамогай уплывовага таты, ці Наталі, якая дзесьці ўсё будзе прабіваць. Я ў гэтым горадзе адна, і навучылася сама думаць пра сваю будучыню.

Я нарадзілася ў Стаўрапольскім краі, дзе цёпла і горы. У Мінску маю кватэру, за якой сочыць домработніца, добрая жанчына, з якой ніколі не ўзнікае непаразуменняў. Я жыву так, як мне падабаецца. А мне падабаецца , каб быў парадак, цяпло і ўтульнасць.

**— Што вы думаеце пра дуэт у цяперашнім выглядзе?**

— Я бачыла іх у клубе «Рэактар». Наташа Кудрына спрабавала спяваць сваім голасам. Ад гэтага стала зусім нядобра: мае партыі гучалі па-іншаму, даволі шэра. Але знайшоўся адказ на пытанне, чаму пазбавіліся ад мяне. Зараз «Дзі-Бронкс» выглядае лідэрам на фоне Наташы. Ён атрымаў тое, да чаго імкнуўся. Ён не мог быць лідэрам побач са мной, ён не мог дараваць мне таленту — гэта даволі жорстка з боку мужчыны. І зараз, паглядзеўшы на ўсё збоку, я зразумела, што, сапраўды, мне там было не месца. Я думаю, Наташа Кудрына яшчэ не зусім разумее, куды лезе. Але неразуменне не пазбаўляе ад адказнасці. Толькі за выкарыстанне майго сцэнічнага псеўданіма ўжо можна падаць у суд. Вядома, вялікіх грошай я з гэтага не атрымаю. Зразумейце правільна: калі штосьці зроблена тваёй працай, а хтосьці хоча на гэтым выехаць, я не магу з гэтым пагадзіцца.

**Запісала Ларыса ЦІМОШЫК.**

# Першы эшалон вярнуўся на радзіму,

## альбо Пра выдуманую эміграцыю «Крамы»

Амаль усё лета беларускі гурт «Крама» ездзіў з канцэртамі па Польшчы, а на радзіму наведваўся вельмі рэдка. А потым ізноў з'язджаў. І вось папаўзлі чуткі, што «Крама» вырашыла застацца ў Польшчы назаўсёды. Вестка пра магчымую эміграцыю нарабіла шуму ў прэсе. Калі і яны — туды, то хто ж тады — тут?..



Не хвалюйцеся, і яны — тут. «Крама» вярнулася ў Мінск са свайго польскага турнэ. І нават мае намер працягваць у гэтым сезоне традыцыйны цыкл «Сябры ў гасцях у «Крамы». Чарговы канцэрт адбыўся 24 кастрычніка ў фестывальным цэнтры «Акварыум». Такім чынам гурт пацвердзіў адданасць роднаму слову і роднай публіцы, абвергнуўшы плёткі, быццам бы хлопцы ўжо падрыхтавалі ў Польшчы глебу для канчатковага «развітання з радзімай». Ад імя ўсіх удзельнікаў гурта аўтар тэкстаў Зміцер Лукашук і гітарыст Ілья Шэўчык паведамілі:

***1. Пра сваю эміграцыю:*** «Як толькі прыехалі, да нас дайшлі чуткі, быццам бы мы ўдзельнічаем у нейкіх канцэртах, пра якія нават не ведаем. Інфармацыя пра эміграцыю з той жа серыі. Хтосьці лепш за нас ведае ўсё наша жыццё. Але ніякай эміграцыі ці ўцёкаў з Беларусі не будзе. Мы з задавальненнем паедзем не толькі ў Польшчу працаваць, але бліжэй ці далей. І гэта не гаворыць пра тое, што мы будзем імкнуцца прасіць палітычнага прыстанішча, як было напісана ў «Аргументах і фактах».

***2. Пра грамадзянства:*** «І не хацелася б ніякага іншага, акрамя беларускага».

***3. Пра працу ў Польшчы:*** «Там прасцей зрабіць канцэрты. А на Беларусі зараз мала магчымасцей выступаць. Скажам, горад Люблін у 10 разоў меншы, чым Мінск, а клубаў там у 10 разоў болей».

***4. Пра пошукі працы — не толькі музычнай:*** «У нас быў месяц адпачынку — вакацыі. У гэты час кожны робіць тое, што лічыць неабходным. Хто хоча — адпачывае. Хто хоча — думае пра заробак. Два чалавекі з групы сапраўды знайшлі магчымасць падзарабіць улетку ў Любліне. Але гэта іх асабістая справа».

***5. Пра магчымыя змены ў саставе:*** «Крама» вярнулася ў поўным саставе. Але змены ўсё ж такі адбыліся. Гітарыст Аляксандр Салаўёў, які амаль год працаваў з гуртом, хутчэй за ўсё не зможа выступаць далей. У яго павінна нарадзіцца дзіця і ён не мае магчымасцей канцэртаваць з камандай. Таму мы зараз працуем у трошкі ўрэзаным саставе з адным гітарыстам, які адначасова і рытм, і сола».

***6. Пра новыя песні:*** «Новых альбомаў не з'явілася. Затое маем многа песень, якіх амаль ніхто не чуў — з двух альбомаў «Дарожны» і «Лянівыя танцы», якія не можам запісаць ужо працяглы час».

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

***ВЕЧАР УСПАМІНАЎ***



*Расціслаў ЯНКОЎСКІ:*

# «КАМУНАЛКА — ГЭТА ТЫСЯЧА ПАДЗЕЙ...»

У гасцях у народнага артыста СССР Расціслава Янкоўскага, яго жонкі Ніны Янкоўскай і іх прыгажуні-кошкі мне пашчасціла бываць не аднойчы. І цяжка было не звярнуць увагі на тое, што кватэра ў іх прасторная, «в бёдрах не жмёт». Але, калі ў кошкі салодкае жыццё было заўсёды, то Расціславу Іванавічу і Ніне Давыдаўне давялося зведаць і «салёнага», і «перчанага», а можна і горш не сказаць... І ўсё ж аб тым часе Янкоўскі-старэйшы ўспамінае з лёгкім сумам і цеплынёй.

— Шчыра кажучы, камуналка — гэта, вядома ж, нечалавечыя ўмовы. Бо пад адным дахам жывуць зусім розныя людзі. І нават калі кожны асобна ўзяты жылец — цудоўны чалавек, з-за несупадзення рытмаў і характараў могуць узнікаць антаганізмы, антыпатыя... Згадзіцеся, у кожнага з нас свая аура, атмасфера, ёсць нейкія свае тайны...

Хаця вось нам з жонкай шанцавала на суседзяў — мы не адзін год жылі ў камунальных кватэрах, і жылі нядрэнна, далібог!

Памятаю, як усе мы перажывалі за маладую дзяўчыну-суседку, у якой з'явіўся сябар: выйдзе яна за яго замуж ці не? А калі была такая непрыемнасць — нас з Нінай падчыстую абакралі, і я застаўся ўвогуле без паліто, — спагадлівы сусед аддаў мне сваё старое...

Вельмі часта мы дзяліліся з суседзямі чым-небудзь смачненькім, а жанчыны разам пяклі пірагі...

А яшчэ я нярэдка ў думках вяртаюся ў сваё «камунальнае» дзяцінства... Побач з намі жыла яўрэйская сям'я, якая частавала нас на Вялікдзень мацой. Я гэта вельмі добра запомніў, таму што жылі мы галаднавата. А аднойчы суседка Рыва прыйшла да маёй бабулі і спытала: «Вольга Афінагенаўна, у вас сёння быў святар? Мы чулі яго голас за сцяной». — «Які яшчэ свяшчэннік?!» — здзівілася бабуля. «Ну, вось да нас прыходзіў равін, а да вас хто?» — дапытвалася Рыва.

«А, дык гэта ж наш Росцік увесь час святара іграе!» — пляснула ў ладкі бабуля... І сапраўды, калі я аднойчы пабываў з ёю ў касцёле і ўбачыў там ксяндза, які размахваў кадзілам, мяне гэта настолькі ўразіла, што дома я прывязаў за вяровачку ваўчок і, узнаўляючы ўпершыню пачутую польскую мову, на радасць суседзям «стаў» святаром...

Наогул, камуналка — гэта тысяча самых цікавых падзей, пра якія ўсё нават і не раскажаш...

Неяк я застаўся ў кватэры з суседзямі-маладымі. У іх я ўпершыню ў жыцці ўбачыў патэфон. Маладыя паказалі мне, як з ім абыходзіцца, паставілі першую, што трапіла на вочы, пласцінку, а самі пайшлі ў свой пакой цалавацца і кахаць адзін аднаго. А я, будучы хлопчыкам тактоўным і выхаваным і баючыся зламаць іх цудоўны патэфон, ціхенька, але настойліва стукаўся ў дзверы маладых: «Прабачце, калі ласка, але я вельмі хачу пераставіць пласцінку. Прабачце, калі ласка...»

Уяўляю, як я сапсаваў ім цудоўны вечар...

**Запісала Алена КЛІМЕНКА.**
**Фота Віктара СТРАЛКОЎСКАГА.**

**На здымку:** сцэна са спектакля з удзелам Расціслава Янкоўскага.

## СЕЗОННЫЯ НАРЫХТОЎКІ

# Капуста на ўсе густы



**Надышоў час перапрацоўкі апошніх дароў нашых агародаў — капусты. Існуе шмат спосабаў нарыхтоўкі капусты ў запас, але асноўным з'яўляецца квашанне. Аднак перш чым расказаць пра некаторыя рэцэпты квашання капусты, адкажам на пытанне, якое часта сустракаецца ў вашых пісьмах, паважаныя чытачы: у які дзень ставіць капусту?**

Даўно заўважана, што саленні і квашанні, прыгатаваныя ў поўню, нясмачныя і хутка псуюцца. Капуста атрымліваецца мяккай і занадта кіслай. Таму з'явілася ў народзе такая прымета: у поўню капусту не ставіць.

А вось буракі, якія павінны ў выніку квашання стаць як мага больш мяккімі, рэкамендуецца квасіць менавіта ў поўню, лепш за ўсё ў апошнюю яе чвэрць. Усе іншыя квашанні і саленні неабходна рабіць толькі ў маладзік, на 5-6-ты дзень.

**КАПУСТА КВАШАНАЯ КАЧАНАМІ**

Качаны ачышчаюць ад зялёных лістоў і складваюць радамі ў бочку. Буйныя качаны разразаюць уздоўж. Рады перaслойваюць сечанай або шаткаванай капустай, дабаўляюць соль (170—200 г на 10 кг капусты) і ўшчыльняюць. Пасля гэтага капусту заліваюць 4-працэнтным растворам кухоннай солі (400 г на 10 л вады). Можна таксама заквасіць капусту і без дабаўлення сечанай або шаткаванай. Капусту ўкладваюць радамі, зверху закрываюць зялёнымі капуснымі лістамі, палатном або марляй і накрываюць драўляным кружком з цяжарам. Расол павінен пакрываць кружок. У капусты неабходна папярэдне выразаць храпку.

**ПА-ЧЭШСКУ**

Нашаткаваць капусту, перацерці яе з соллю (20 г на 1 кг масы), змяшаць са здробненай морквай і рэпчатай цыбуляй (адпаведна 20 і 30 г на 1 кг капусты), перасыпаць чорным перцам, лаўровым лістам і ўлажыць у посуд, трамбуючы і прыціскаючы грузам.

Праз тры дні пракалоць капусту чыстай палкай, каб выдаліць газ з непрыемным пахам. На наступны дзень адціснуць расол і капусту шчыльна ўлажыць у шкляныя слоікі. Расол давесці да кіпення і заліць ім капусту. Слоікі пастэрылізаваць: літровыя — 10 хвілін, трохлітровыя — 45 хвілін. Захоўваць у халаднаватым месцы.

**ПА-БАЛГАРСКУ**

У капусты выдаліць храпкі. Качаны парэзаць на кавалкі прыблізна па 200—300 г. Дробна парэзаць ачышчаны часнок і пятрушку, буйнымі кубікамі буракі, пацерці на тарцы хрэн. Усе гэтыя прадукты скласці ў эмаліраванае вядро і заліць расолам.

Расол рыхтуюць з разліку на 4 л вады па 200 г буйной солі і цукру. Усё пракіпяціць і астудзіць. Затым цёплым расолам заліць капусту, накрыць яе фанерай (талеркай), на якую пакласці цяжар, і пакінуць на двое сутак у кватэры. Затым перанесці ў больш халоднае месца. Праз пяць дзён капуста гатова.

На вядро спатрэбіцца 8 кг капусты, 100 г хрэну, 50 г пятрушкі, 300 г бураkoў. Можна для вастрыні дабавіць 3-4 стручкі чырвонага горкага перцу.

-1296-

## ХАТНЯЯ МАЙСТЭРНЯ

# Стол... каб сядзець



**Дзіця падрастае хутка: здаецца, толькі ўчора радавала тым, што пачало трымаць галоўку, а сёння ўжо самастойна сядзіць. Праўда, яшчэ не вельмі ўпэўнена — так і глядзі, каб не перакулілася, — таму на звычайнае дзіцячае крэсла саджаць малога яшчэ рана. Ды і цацкі кідае. Прыстасаваць бы які-небудзь столік...**

Вы, напэўна, ужо звярнулі ўвагу на наш малюнак. Малы за незвычайным устройствам, якое адначасова з'яўляецца і сталом, і крэслам.

Для яго вырабу спатрэбіцца фанера таўшчынёй 10—12 мм або драўнянастружкавыя пліты таўшчынёй 20 мм.

Шчыты спінкі, сядзення і століка выпілоўваюцца з выступамі-шыпамі, загатоўкі бакавіны маюць адпаведныя ім шчыліны. Пры правільным разліку канструкцыя гэта можа быць сабрана без клею, пры ўмове, што шыпы шчыльна ўвойдуць у пазы-шчыліны. Аднак можна выкарыстаць і клей — казеінавы, сталярны, ПВА. Спачатку стыкуюць загатоўкі адной бакавіны, спінкі, сядзення і століка, асцярожна сумяшчаючы шыпы з адпаведнымі ім пазамі. Пры неабходнасці можна злёгку пастукаць малатком па дапаможным накладным бруску. Затым накладваць другую бакавіну.




**Стол для дзіцяці:**
*1 — спінка, 2 — бакавіна, 3 — столік, 4 — сядзенне.*

Калі шчыты зроблены з драўнянастружкавых пліт, то іх канты будуць мець вышчарбленую паверхню, якую неабходна зараўняць шпаклёўкай — гатовай або прыгатаванай самастойна (у эмульсію ВПА дабавіць дробнае пілавінне або драўняны пыл да смятанападобнай гушчыні). Пасля прасушкі ўсю канструкцыю добра пафарбаваць водаэмульсійнай фарбай з дабаўленнем яркіх фарбавальнікаў або эмалямі спакойных цёплых адценняў.

# Маленькія хітрасці



Старыя пальчаткі не перашкода ў доме. Яны яшчэ могуць быць карыснымі, калі стануць своеасаблівым «патранташам» для рабочага інструменту. Для гэтага верхнюю палову пальчаткі адрэжце, другую ж, ніжнюю (або сподняю), падагніце і сшыйце ў выглядзе пятлі. Прасуньце ў пятлю рэмень, а ў адтуліны-пальцы ўстаўце патрэбны вам інструмент (гл. мал.).

-1297-

# УСХОДНІ ГАРАСКОП НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ

КАЗЯРОГ атрымае добрыя дзелавыя прапановы і зможа адкрыць новае аддзяленне свайго прадпрыемства ці офіса, у тым ліку і за мяжой. Каманда аднадумцаў, якая дзейнічае разам з вамі, знойдзе магчымасці для паспяховага прадаўжэння бізнесу. Дзяржслужачых чакаюць перамены ў працы, якія павялічаць шанцы на павышэнне.

ВАДАЛЕЙ павінен прыгадаць зробленыя раней прапановы сваіх партнёраў па бізнесу і пачаць рэалізацыю гэтых праектаў. Гэта абяцае неблагія даходы. Цікавасць да вашых дзелавых поспехаў будзе такой вялікай, што чакайце запрашэння з-за мяжы, дзе захочуць пераняць ваш вопыт. Аднак не дзяліцеся сваімі новымі планамі, бо сурочыце.

РЫБЫ працягваюць пажынаць лаўры ва ўсіх відах дзейнасці. Новыя інвестыцыі на доўгі час забяспечаць добрыя дывідэнды. Можна набыць участак зямлі пад новае прадпрыемства. З'явіцца магчымасць для дзелавой паездкі, што асабліва нядрэнна, калі ў вас дома наспелі невялікія праблемы. А менавіта так і здарыцца.

АВЕНЫ крыху астынуць да працы. Аднак перадача сваіх паўнамоцтваў іншым можа прывесці да не зусім добрых вынікаў. Найбольш важнымі справамі займайцеся самі. Прадстаўніцам прыгожага полу, якія чакаюць долі ў сямейным бізнесе ці даходах, прыйдзецца крыху расчаравацца і перанесці выкананне задуманага на бліжэйшую будучыню.

ЦЯЛЬЦЫ могуць прыступаць да новага праекта ў бізнесе. Планеты спрыяюць вашым дзелавым паездкам, зносінам з прэсай, пошуку новай кліентуры, калі займаецеся медыцынай ці юрыспрудэнцыяй. Дзяржслужачыя атрымаюць новую пасаду і прасунуцца ў кар'еры. А тыя, што працуюць у мінфіне ці маюць адносіны да абароны, дасягнуць яшчэ большага.

БЛІЗНЯТЫ павінны ва ўсім прытрымлівацца намечаных планаў і не траціць час марна. Не бярыцеся за тое, аб чым не маеце ўяўлення. Давярайце свайму вопыту, які асабліва дапаможа на гэтым тыдні тым, хто займаецца гандлем. Выгаду можна атрымаць ад брокерскіх здзелак і рэалізацыі кароткатэрміновых праектаў.

РАКУ давядзецца прыняць удзел у мностве сустрэч, семінараў і нарад. Ваш кашалёк значна пахудзее з-за вялікіх і незапланаваных расходаў. Паміж мужам і жонкай могуць узнікнуць рознагалоссі адносна планавання бюджэту. Дома, магчыма, прыйдзецца даглядаць хворага сваяка.

ІЛЬВЫ дасягнуць поспеху з дапамогай замежжа, якое «ўсім нам дапаможа». Шмат часу забярэ ў вас перапіска і розная валакіта з паперамі. Давядзецца мець зносіны з прэсай, і гэты працэс пройдзе нармальна. Можа адбыцца падпісанне эксклюзіўнага дзелавога кантракта, а дзяржслужачыя, якія стаяць у чарзе, атрымаюць новую кватэру.

ДЗЕВА пераканаецца, што большасць спадзяванняў на лепшую будучыню блізкія да здзяйснення. Даўно заключаная здзелка прынясе добрыя даходы. Працуючым на дзяржаву не варта мяняць працу, лепш будзе праявіць стараннасць на ранейшай. Тыя, хто жыве вялікай сям'ёй, пажадаюць пасяліцца асобна. Узнікне пытанне аб новым доме ці кватэры.

ШАЛІ апынуцца на краі бездані, калі работа, якая працягваецца нармальна, пойдзе ў глум. Будзьце гатовы да гэтых непрыемных нечаканасцей, якія выклічуць незапланаваныя расходы. Занятым фізічнай працай, на жаль, пагражае траўма на вытворчасці, а ў асабістым жыцці таксама, на жаль, узнікнуць праблемы.

СКАРПІЁН будзе працягваць рухацца ў правільным накірунку, што абяцае поспех у бізнесе і фінансавых справах. Але старайцеся браць на сябе роўна столькі, колькі зможаце выканаць. Засяродзьцеся толькі на тых праектах, якія прынясуць хуткую выгаду. Сардэчнае захапленне адцягне вас ад спраў, але яны ад гэтага не пацерпяць.

СТРАЛЕЦ атрымае даход ад сваёй высокай дзелавой актыўнасці. Працягвайце ў тым жа духу, і вашы дывідэнды будуць павялічвацца, а бізнес — пашырацца. Магчымы паездкі за мяжу. Асабістае жыццё прынясе нямала радасці. Яё ж наканавана адчуць навучэнцам ад паспяхова здадзеных экзаменаў.

**Леанід КОТАЎ, кар. ІТАР—ТАСС.**
*г. Дэлі.*

## ДАПАМОГУЦЬ НІТКІ І ІГОЛКА

# «Маланка» не спатрэбіцца

Вы вырашылі пашыць сабе спадніцу? Правільна: з любой блузкай, джэмперам, світэрам — новы туалет, і кожны — са сваім характарам і настроем.

Дарэчы, а пра кішэні вы не забыліся? Яны неабходны любой гаспадыні. Прапануем такі варыянт размяшчэння кішэняў: кішэні ў швах спадніцы. Пры такой канструкцыі вам не спатрэбіцца засцежка-«маланка», бо калі сшыеце мешкавіны кішэняў, то зверху застанецца дастатковы разрэз, каб свабодна надзяваць і здымаць спадніцу. З аднаго боку пояса прышываецца гузік, з другога абкідваецца прарэшак.

**ПРАЦАВАЦЬ ТРЭБА Ў ТАКІМ ПАРАДКУ**




- Правыя бакавыя зрэзы спадніцы сшыць ніжэй і вышэй метак уваходу ў кішэню, левыя — толькі ніжэй уваходу. Сфастрыгаваць уваход, швы адпрасаваць **(мал. 1.)**
- Мешкавіны прыфастрыгаваць або прыкалоць да прыпускаў уваходу ў кішэні, склаўшы іх правымі бакамі, і прышыць да верхняга зрэзу спадніцы. На ўваходзе ў правую кішэню вышэй меткі робім гэта шчыльна да шва **(мал. 2)**.
- Мешкавіны запрасаваць у бок пярэдняй полкі і сшыць паміж сабой, пакідаючы ў левай кішэні зверху месца для засцежкі. Затым мешкавіны, акрамя верхняй часткі левай з іх, прыфастрыгаваць да верхняга зрэзу спадніцы **(мал. 3)**.
- Прышыць пояс да верхняга зрэзу спадніцы, а прыпуск пад засцежку — да задняй часткі левай мешкавіны (мал.4). Унутраную палавіну апрацаванага пояса падагнуць і прышыць са споду. Абкідаць прарэшак, прышыць гузік **(мал. 5)**.

Засцежка гатова.

## СЛУШНЫЯ ПАРАДЫ

# Калі чысціць, то да бляску

- Вырабы са скуры можна чысціць, праціраючы іх фланелевай анучкай, намочанай ва ўзбітых яечных бялках. Скура пасля такой апрацоўкі набывае свой першапачатковы бляск.
- Можна аднавіць бляск паношаных паліто і куртак, калі іх пацерці свежай скуркай апельсіна.
- Вырабы са скуры зноў стануць бліскучымі, калі час ад часу праціраць іх гліцэрынай.
- Абнавіць скураную сумачку можна цёплай мыльнай вадой, у якую дабаўлена крыху нашатырнага спірту. Затым прасушыць і працерці анучкай, намочанай у рыцыне.

-1298-

## ПА ВАШАЙ ПРОСЬБЕ

# Феномен крэменю

***«Раскажыце, калі ласка, пра ўласцівасці крэменю. Чула, што крэмніевая вада карысная для чалавека. Ці так гэта?»***

**З размовы па тэлефоне.**

Спецыялісты сцвярджаюць, што гэта адпавядае ісціне. У апошні час надрукаваны шэраг работ аб ролі крэменю ў паляпшэнні экалагічнай абстаноўкі, паніжэнні радыяцыйнага фону, нейтралізацыі адходаў прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці, павышэнні прадукцыйнасці раслінаводства і жывёлагадоўлі. Нямала напісана і аб яго гаючых уласцівасцях.

На аснове даследаў і назіранняў спецыялісты — сярод іх асобна стаіць імя мінскага інжынера А. Д. Малярчыкава — зрабілі выснову, што актываваная крэменем вада (АКВ) становіцца бактэрыцыднай і знішчае вірусы грыпу, супакойвае зубны боль, лечыць ангіну, насмарк, дапамагае пры расстройстве жывата, памяншае колькасць цукру ў крыві, паляпшае функцыянаванне нырак, печані, нармалізуе абмен рэчываў у арганізме. Акрамя таго, як сцвярджае Малярчыкаў, ёсць дастаткова важкія прычыны лічыць крэмень эфектыўным сродкам барацьбы з анкалагічнымі захворваннямі.

Адзначаецца, што АКВ дае добрыя вынікі пры лячэнні трафічных язваў, дысбактэрыёзу, асабліва ў дзяцей пры штучным выкормліванні і лячэнні антыбіётыкамі, пры дыспепсіі, харчовых атручэннях, язвавай хваробе. Усё гэта знаходзіць навуковае пацвярджэнне.

Устаноўлена, што на 5-6-ты дзень пасля прыёму АКВ павялічваецца колькасць лімфацытаў. А гэта сведчыць аб здольнасці АКВ аднаўляць аслаблены імунітэт. Можна рэкамендаваць актываваную крэменем ваду як сродак пасля галення, для папярэджання маршчын, загойвання ран. Мыццё галавы ўмацоўвае валасяныя сумкі, а таксама садзейнічае адрастанню валасоў.

Па перакананню дасведчаных людзей, АКВ перашкаджае развіццю адэномы і імпатэнцыі ў мужчын, а таксама папярэджвае бясплоднасць у жанчын.

Выкарыстоўваецца АКВ і для паласкання поласці рота, слізістай носа, арашэння гартані. Яна паніжае запаленчыя працэсы, умацоўвае тканкі і крывяносныя сасуды.

## ЗАПРАШАЕМ НА ДЭГУСТАЦЫЮ

# Журавінавы морс



***1 шклянка журавін, 0,5 шклянкі цукру, 1 л вады***

Журавіны перабраць, вымыць, расцерці і адціснуць сок. Сок пераліць у слоік, накрыць накрыўкай і паставіць у цёмнае халаднаватае месца. Жамерыны заліць гарачай вадой, паставіць на агонь і давесці да кіпення. Затым зняць з агню, працадзіць, астудзіць. Атрыманы адвар змяшаць з раней адціснутым сокам, дабавіць цукар і перамяшаць.

**ЗАЎВАГА.** Ягадны морс — гэта напой браджэння, блізкі да натуральнага соку і фруктовай вады. Для яго прыгатавання неабходна браць толькі гатаваную ваду, інакш морс пакрыецца пенай. Цукар раствараць у гарачай вадзе, сок дабаўляць да астуджанага морсу, не гатаваць.

-1299-

# ВІНШАВАННІ

*Віншуем з днём нараджэння дарагую матулю **Праскоўю Андрэеўну Пікуза.** Жадаем моцнага здароўя, дабрабыту і ніякай бяды на доўгія гады.*

**Дочкі, унукі,** г. Мазыр.

*Вучні 10 класа Жарабковіцкай школы віншуюць свайго класнага кіраўніка **Аляксандру Юльянаўну Сакалоўскую** з юбілейным днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, поспехаў у працы і доўгіх шчаслівых гадоў жыцця.*

**Вучні 10 класа,** Жарабковічы.

*Віншуем з днём нараджэння дарагога сыночка і брацка **Валеру Харэцкага.** Жадаем моцнага здароўя і поспехаў у вучобе.*

**Тата, мама, Света, Каця,** г. Мінск.

## АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

**Не паэты прыдумалі каханне. Гэта прырода надзяляе людзей каханнем, напаўняе такім шчымліва-актыўным пачуццём, што прымушае іх творча выявіць свае магчымасці, пабуджае ствараць і нараджаць у гармоніі. І яна, прырода, узводзіць маякі — дасылае для грамады творцаў, якія сваёй дзейнасцю арыентуюць яе на шлях хараства.**

**У красавіку 1991 года Аляксандр Ціхановіч перад замежнымі гастролямі ансамбля «Шчаслівае здарэнне» прапанаваў Леаніду Дранько-Майсюку напісаць тэкст для сумеснай песні.**

**Паэт не пісаў. Ён занатаваў на паперы пачуцці, якія перапаўнялі яго. На той час ён яшчэ не быў у Парыжы. Але яго вабіў гэты багемны горад — прытулак паэтаў, мастакоў і кампазітараў. У мроях Леанід часта пераносіўся туды, а ў паэтычных радках згадваўся таямнічы для славян горад.**

**У песні пра каханне «Ружа белая» Парыж паўстае як сапернік, як terra incognita. Аднак вымалёўваецца і Мінск. Паэт вуснамі лірычнага героя паведамляе, што пачуццёва-страсная плынь, якая віравала на вуліцах і ў палацах рамантычнага горада, цяпер ахінае і беларускую прастору, а сацыяльныя ўзрушэнні ўсё больш саступаюць тут душэўным парыванням. Свет поўніцца любоўю і каханнем. Гэта ўслаўляецца ў песні Аляксандра Ціхановіча і Леаніда Дранько-Майсюка «Ружа белая».**

### РУЖА БЕЛАЯ

*МУЗЫКА Аляксандра ЦІХАНОВІЧА*
*СЛОВЫ Леаніда ДРАНЬКО-МАЙСЮКА*

*Ружа белая ў імгле, —*
*Ружа на маім стале,*
*Вазы тонкі сілуэт,*
*Каля вазы твой партрэт.*
*І з партрэта ты глядзіш*
*На Марсэль і на Парыж,*
*А на Мінск? А на мяне?*
*Не і не... Не і не...*

***Прыпеў:*** *Я дап'ю віно*
*На пару з ружай,*
*Сілу дасць яно*
*Журбу адужаць.*
*Дап'ю віно*
*І — усміхнуся*
*І з ружай белай застануся.*

*Ваза спіць і ружа спіць,*
*Ціха свечка дагарыць...*
*Толькі ты адна не спіш,*
*Толькі ты адна глядзіш*
*На нябесныя сады,*
*На чужыя гарады,*
*А на сумнага мяне —*
*Не і не... Не і не...*

***Прыпеў.***

*Я прывыкну да ўсяго, —*
*І да позірку твайго,*
*Да таго, што ты глядзіш*
*На Марсэль і на Парыж.*

***Прыпеў.***

## Слава ЗАЙЦАЎ:

## «У любым адзенні вы павінны адчуваць сябе абароненымі»

**5 лістапада ў памяшканні тэатра оперы і балета Беларусі адбыўся паказ новай калекцыі славутага расійскага куцюр'е Славы Зайцава «Спакуса». Трэба сказаць, што трапіць на праграму змог далёка не кожны: кошт асобных білетаў перавышаў 700 тысяч рублёў. І ўсё ж ахвотнікаў паглядзець, чым дыхае «высокі свет», знайшлося дастаткова.**

Доўгі час лічылася, што ў нас моды няма. І толькі пасля таго, як знікла «жалезная заслона», аказалася, што ёсць чым здзівіць Захад. Сёння імёны Зайцава, Юдашкіна, Зянайлава вядомы на ўсіх кантынентах. Сёння менавіта яны дыктуюць у сваёй краіне «адзіна магчымы стыль». Пры поўнай свабодзе выбару.

Пасля паказу калекцыі мы змаглі пагутарыць са Славам Зайцавым.

**— З чым вы прыехалі сёння ў нашу сталіцу?**

— Я прывёз паказаць вам сваю новую калекцыю, у якой сабраў усё — усе «хіты» моды з 1928-га па 1949 год. Тут я стварыў атмасферу стомленай, але вытанчанай жанчыны, якая чакае разумення, прызнання, цяпла, пяшчоты, кахання. Чаму я выбраў менавіта гэты адрэзак часу? Гэта звязана з успамінамі пра маю маму.

**— Скажыце, на ваш погляд, мода ў Парыжы моцна адрозніваецца ад моды ў Расіі?**

— Я лічу, што тут некарэктна параўноўваць. Там працуюць іншыя. У мяне — свая пазіцыя, у модзе я прапрацаваў 40 гадоў. Адно, што я магу сказаць: у Маскве няма «высокай моды». Тут проста яшчэ не створаны ўмовы для гэтага. Для высокай моды патрэбны вялікія грошы. Але гэта — справа часу.

**— Пра Мінск прамаўчым. Скажыце, а хто з вядомых людзей у вас апранаецца?**

— Шмат людзей да нас прыходзяць: ад «зорак» кіно да міністраў. Асабліва цёплыя адносіны ў мяне са спеваком Юліянам — у яго такія рамантычныя песні. Я заўсёды прадастаўляю яму добры выбар.

**— А як вы глядзіце на хвалю «чырвоных пінжакоў», «зялёных пінжакоў»?**

— Гэтая хваля даўно прайшла.

**— Што б вы маглі параіць нашым жанчынам?**

— Перш за ўсё, я хацеў бы сказаць ім, што прыйдуць лепшыя часы. А пакуль... Нават калі няма грошай, чалавек знаходзіць магчымасць апранацца як след. Можна хадзіць у звычайнай маечцы, сарочцы, але чыстай і адпрасаванай. Абавязкова — прычоска, а вось макіяж не павінен раздражняць, ён проста павінен дапаўняць вашу прыгажосць. Я думаю, усе жанчыны па прыродзе сваёй маюць густ. Проста ў многіх з іх няма стымулу. Для жанчын вельмі важны стымул, каб было дзеля каго апранацца.

**— А якая зараз тэндэнцыя мужчынскай моды?**

— У Еўропе тут зараз існуе нейкая раздвоенасць. Адны мадэльеры аддаюць перавагу змякчанаму стылю, можна сказаць, жаноцкасці ў адзенні. Я лічу, што гэта ненармальная мода. Становіцца вельмі сумна. Мужчына, якім бы ён ні быў, кім бы ён ні быў, павінен заставацца мужыком, паколькі прырода адарыла проста фантастычным багаццем. Таму і вопратка павінна падкрэсліваць яго духоўную і фізічную моц, прыгажосць.

**— А які ў такім разе ваш асабісты стыль?**

— Перш за ўсё, я лічу сябе добрым мастаком. Што датычыць стылю... Вядома, у мяне з гадамі выпрацаваўся свой прынцып у адзенні. Я аддаю перавагу класічнаму англійскаму стылю, у ім я адчуваю сябе абароненым.

**Вольга РАМАНЮК.**

*Читателям газеты «Звезда» «Желаю постичь радость бытия» ... 96 г. Минск*

## 36,6°

## Унікальны старадаўні сардэчны рэцэпт

Рыхтуюцца асобна два саставы.

**Састаў першы:**

Мёд натуральны (лепш майскі) — 500 г.

Гарэлка 40-градусная — 500 г.

Абодва кампаненты змяшаць, нагрэць на ўмераным агні і, пастаянна памешваючы, давесці да ўтварэння на паверхні сумесі суцэльнай малочнай плёнкі (плеўкі). Затым зняць з агню. Даць адстаяцца.

**Састаў другі:**

Адзін літр вады загатаваць, узяць пакрысе наступных зёлак: сардэчніку, сушаніцы балотнай, здробненых каранёў валяр'яну, спаршу і рамонку.

Усё гэта заварыць і паставіць адстойвацца на паўгадзіны. Можна выкарыстаць для настойвання зёлак тэрмас. Затым адвар працадзіць праз некалькі слаёў марлі.

Першы састаў змяшаць з другім. Пасля гэтага паставіць у цёмнае месца адстойвацца тры дні.

**Прыём:** першы тыдзень — па чайнай лыжцы два разы на дзень (раніцай і ўвечары); другі тыдзень і да канца прыёму — па сталовай лыжцы два разы на дзень.

Можа стварыцца памылковае ўражанне, што лячэнне не дае належнага эфекту, але ён праявіцца ў тым, што вы забудзеце пра бальніцу і пра болі ў сэрцы, пазбавіцеся ад атэрасклерозу, стэнакардыі, ішэміі і гіпертаніі.

Галоўнае! Рэгулярна і своечасова прымаць лякарства да апошняй лыжкі.

Пасля 7—10 дзён перапынку зноў прыгатаваць лякарства і прадоўжыць лячэнне, поўны курс якога — адзін год.

**Міхаіл РЭЧКІН.**

*«АиФ—Здоровье».*

## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

### КРЫЖАВАНКА-ПЕРАКЛАД

*Перакладзіце гэтыя словы на беларускую мову.*

**Па гарызанталях:** 7. Отзывчивость. 8. Надобность. 11. Препятствие. 12. Подорожник. 14. Ком. 15. Чудеса. 16. Бубенцы. 19. Жадина. 20. Качество. 21. Угар. 23. Мешковина. 24. Отжиг. 26. Аромат. 29. Кожура. 31. Свидетель. 34. Сундук. 35. Облегчение. 36. Кадка. 39. Сомнение. 40. Жадность. 41. Кручина. 42. Ущелье.

**Па вертыкалях**: 1. Супесь. 2. Камышовка. 3. Побег. 4. Скирда. 5. Упругость. 6. Объятия. 9. Воззвание. 10. Плесень. 13. Внимание. 17. Тяжеловоз. 18. Светильник. 21. Чан. 22. Кровля. 25. Цыплёнок. 27. Корь. 28. Смещение. 30. Опасение. 31. Топор. 32. Астрагал. 33. Младенец. 37. Баловство. 38. Обозрение.

**Склаў Фёдар БЯЛЯЕЎ.**

*г. Жодзіна.*

### ГАЛАВАЛОМКА

На малюнку — дзве фігуры з клетак. На левай у пустыя клеткі трэба ўпісаць нейкія галосныя літары, на правай — нейкія зычныя. Калі гэта будзе зроблена правільна, то можна прачытаць дзве прымаўкі на адну і тую ж тэму. Якую?

**Склаў Уладзімір АБАБУРКА.**

*Клецкі раён.*

### ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**Крыжаванка (26 кастрычніка). Па гарызанталях:** 3. Кірха. 5. Бурак. 7. Славяназнаўства. 9. Сапфір. 11. Казак. 13. Пілерс. 15. Наказ. 16. Разін. 17. Татры. 19. Усуры. 20. Валакаламск. 22. Слесар. 23. Карнет. 24. Лінатып. 25. Дрэнаж. 27. Аварка. 29. Наватарства. 30. Аксай. 31. Аўрал. 32. Каран. 34. Дакар. 36. «Раздан». 37. Рацэя. 38. Рабкор. 41. «Новалазараўская». 42. Туман. 43. Траян. **Па вертыкалах**: 1. Траяк. 2. Браўн. 3. «Красін». 4. Анатаз. 5. Бондар. 6. Катлін. 7. Супергетэрадзін. 8. Александроўская. 9. Сеанс. 10. Радар. 11. Каталізатар. 12. «Камарынская». 13. Пінск. 14. Спрыт. 18. «Балабас». 20. Валан. 21. Канва. 25. Докер. 26. Жакан. 27. Авуар. 28. Анагр. 32. Карвет. 33. Нарзан. 34. Дэкрэт. 85. Райкін. 39. Клема. 40. Аўтар.

**Крыптаграма (26 кастрычніка).** Ключавыя словы ў ёй: Друць, Авен, Сочы, сем. Прымаўка чытаецца такая: «Не сорамна не ведаць, сорамна не вучыцца».

## ВІНШУЕМ

*Мілая мамачка **Галіна Аляксандраўна Стагановіч!** З днём нараджэння цябе! Поспехаў, усмешак, вечнай маладосці. Будзь шчаслівай і вясёлай.*

**Твае родныя,** *г. Навагрудак.*

*Любую матулю, **Марыю Інапітаўну Федаровіч,** віншуем з днём нараджэння. Жадаем здароўя, радасці, шчасця і дабрабыту. Мы ўдзячныя табе за клопаты і ласку.*

**Сыны, нявесткі, унукі і праўнукі,** *г. Мінск.*

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння **Ганну Фёдараўну Кенць** з г. Мінска. Будзь заўсёды здаровай, вясёлай, маладой і шчаслівай.*

**Брат і ўся радня Чубрык,** *г. Масты.*

*Віншуем **Сашу Краўчанку** з юбілеем. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, удачы, добрых сяброў. Прымаць усё, што нельга змяніць; мужнасці змяніць, што змяніць можна; мудрасці адрозніць адно ад другога.*

**Бацькі, сёстры, пляменнікі,** *в. Карма Добрушскага раёна.*



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94665. Індэкс 63850.
Зак. № 7102.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12